# Газета для вас

6 — 12 ліпеня 2001 г.

№ 27 (290)

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН




## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:


**Жабкі па-ранейшаму квакаюць...**

у безымянным канале ля Івацэвіцкага Дома культуры.

2-я стар.

**Эксклюзіўнае інтэрв'ю Вінцука Вячоркі "Газеце для вас"**

3-я стар.

**Граффити:**



искусство или варварство?

5-я стар.

**"Я верыла бацьку..."**

У вёску Яглевічы Івацэвіцкага раёна прыйшла вестка аб рэабілітацыі Фёдара Ахрамовіча.

6-я стар.

**Наша гісторыя: Кастусь Каліноўскі —сын наш геройскі**

7-я стар.


# ДЗЕ? ДЗЕ? ДЗЕ?

## 7 ліпеня мінае год, як знік наш калега — тэлеаператар



# Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

Рэпарцёры — не палітыкі. Журналісты — не суддзі. Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй. Няма рэпарцёра — няма суда? Дзе Дзмітрый Завадскі? Хто і па якім праве распараджаецца яго лёсам?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

7 ліпеня 2000 года знік наш калега Дзмітрый Завадскі. Споўніўся год, як ягоная сям'я пазбаўлена бацькі і мужа. Беларуская Асацыяцыя Журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзмітрыя Завадскага і дасласць ахвяраванні на разліковы рахунак Святланы Міхайлаўны Завадскай. Калі ласка, <u>абавязкова пазначайце прызначэнне плацяжа:</u> **АХВЯРАВАННЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА.**

Рэквізіты банка-атрымальніка:

**<u>Рахунак для ахвяраванняў у валюце:</u>**

**PRIORBANK**

Minsk V.Horuzhey str.31-A

**SWIFT Code: PJCB BY 2X**

**3134125305029**

<u>Атрымальнік:</u> **Sviatlana Zavadskaya**

**<u>Рахунак для ахвяраванняў у беларускіх рублях:</u>**

**Р/р 3134125300011, "Пріорбанк" ОАО, код 749**

<u>Атрымальнік:</u> **Святлана Міхайлаўна Завадская.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Беларусь далеко позади

**Если Украина лидирует по итогам первых 5 месяцев 2001 года среди стран СНГ по темпам роста промышленного производства (по данным межгосударственного статкомитета СНГ, промышленный рост в стране составил по сравнению с январем-маем 2000 года 18,8%), то Беларусь по тем же самым темпам роста промышленного производства остается далеко позади. По данным статкомитета промышленный рост здесь 3,4%.**

В среднем по СНГ в январе-мае 2001 г. промышленное производство увеличилось на 8,5% (в январе-мае 2000 г. - на 9,7% по сравнению с тем же периодом 1999 г.). По статистике, наиболее высокие темпы роста производства в январе-мае достигнуты в Таджикистане (13,5%), в Казахстане (11,6%) и в Молдавии (9,9%). В Киргизии рост составил 6,8%, в России - 5,9%, в Азербайджане - 5,5%, в Армении - 4,2%. В Грузии производство сократилось на 6,2%, данными по Туркмении и Узбекистану статкомитет СНГ не располагает.

## На ОРТ — "Дикая охота"

**К годовщине исчезновения в Минске журналиста Дмитрия Завадского российский телеканал ОРТ вновь подготовил показ фильма Павла Шеремета "Дикая охота".**

Картина посвящена таинственным исчезновениям в Беларуси известных людей - Дмитрия Завадского, Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского.

Спустя год после исчезновения Дмитрия Завадского автор "Дикой охоты", его друг и коллега Павел Шеремет, посчитал нужным изменить финал фильма. "Изначально фильм был снят слишком корректно, мы были вынуждены сглаживать углы, в нем было немало пробелов. Теперь заказчики похищения Димы для меня ясны. Эти люди будут наказаны, и нечего играть в политкоррекцию. Теперь финал фильма будет более жестким", - заявил Шеремет пресс-центру Хартии-97.

"Правда, я уверен почти на 100 процентов, что белорусские зрители не увидят этот фильм. Белорусская сторона сознательно блокирует по вечерам вещание канала ОРТ на Беларусь. Все эти разговоры о том, что у Беларуси якобы не хватает денег на вечернюю трансляцию ОРТ в Беларуси - чушь. На самом деле, это российская сторона платит Беларуси деньги за ретрансляцию своего сигнала на Беларусь", - поделился своими вполне обоснованными опасениями Павел Шеремет.

Действительно, эксперименты по отключению российских каналов стали в последнее время в Беларуси привычным делом. Только утихли страсти по майскому отключению всех российских телеканалов, когда целый день на их частотах транслировалось одиозное до предела БТ, как появилась новая напасть: каждый вечер в Беларуси прекращает вещать ОРТ.

**www.tut.by.**

## Задержаны активисты "Маладога Фронту"

**Более 30 активистов "Маладога Фронту" были задержаны в Минске 1-2 июля во время проведения оппозиционной акции под лозунгом "Горад - наш!". Акция проводилась по вечерам во время официальных праздничных мероприятий по случаю Дня Республики.**

Как сообщили БелаПАН в пресс-службе "Маладога Фронту", вечером 1 июля во время концерта на площади Независимости молодофронтовцы выбрасывали "салютом" из толпы бело-красно-белые листовки с надписью "Зрабі прэзідэнта" и раздавали присутствующим спецвыпуск своего вестника "Горад - наш!". В этот вечер были задержаны около 30 человек.

2 июля акция "Горад - наш" продолжилась. Кульминации она достигла примерно в 20.45, когда во Дворце Республики завершилось торжественное собрание по случаю Дня Независимости с участием президента и большое количество минчан находилось на Октябрьской площади. Когда Лукашенко в окружении охраны выходил из Дворца, раздались возгласы "Жыве Беларусь!" и молодые люди начали бросать в его сторону бело-красно-белые листовки.

## Вадзіцель Сямёна Домаша быў затрыманы

**Вечарам 27 чэрвеня ў Мінску супрацоўнікамі ДАІ ў раёне вуліцы Багдановіча быў спынены аўтамабіль патэнцыяльнага кандыдата ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Сямёна Домаша.**

Хутка да машыны, у якой знаходзіўся толькі вадзіцель, пад'ехаў аўтамабіль "Вольва". Адтуль выйшлі чатыры чалавекі, якія прад'явілі пасведчанні супрацоўнікаў КДБ. Яны абшукалі аўтамабіль. Пасля вобыску быў праведзены допыт вадзіцеля. У вадзіцеля, у прыватнасці, пыталіся, чаму ён возіць Домаша, хто і колькі грошай яму плаціць, якія дакументы ён перавозіць у машыне, чаму сябруе з дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, былым палітзняволеным Уладзімірам Кудзінавым, які зараз уваходзіць у перадвыбарны штаб Сямёна Домаша. У канцы гутаркі супрацоўнікі КДБ прапанавалі вадзіцелю дзяліцца з імі "цікавай інфармацыяй".

**БелаПАН.**

# ЖАБКІ ПА-РАНЕЙШАМУ КВАКАЮЦЬ...

## Газета выступіла. Штосьці зроблена

**Пра так званы безымянны канал, які цячэ праз г. Івацэвічы, газета неаднаразова пісала, звяртаючы ўвагу на тое, што некаторыя ўчасткі выглядаюць настолькі дрымуча, нібы балотныя пейзажы, а не панарама райцэнтра.**

Нядаўна канал насупраць Дома культуры абкасілі. Выгляд стаў больш культурным, больш падобны на сенажаць, чым балота. Хто ж працаваў тут?

Расказвае **Лявонцій МЯЦЕЧКА**, начальнік планава-тэхнічнага аддзела прадпрыемства меліяратыўных сістэм.

— Мы за гэты канал кожны месяц ад уладаў атрымліваем добры наганяй, але што рабіць, калі людзі яго загадзілі да такой ступені, што, каб прыбраць, давесці яго да толку, патрэбны неверагодныя намаганні. Падобны канал у Косаве жыхары падтрымліваюць у лепшым выглядзе.

Былі прапановы схаваць гэты канал, увогуле, пад бетон, але дзе ўзяць сродкі? Наша прадпрыемства і так ледзь зводзіць канцы з канцамі. Тут на экскаватар іх не знайсці, тым больш, што вакол пракладзены, пастаўлены, праведзены камунікацыі, электралініі, агароджы. Што пакуль мы можам зрабіць — абкасіць канал.



Аляксандр Горбач.

Цяпер канал больш падобны на сенажаць.

...Гм, тое, што засталося, каналам назваць ужо цяжка...

**Падрыхтаваў Аляксандр ГОРБАЧ.**

## Эх, чарка...

**ДРАГІЧЫН.** Калі чарка спіртнога прыносіць бяду, тады з сумам і расчараваннем гаворыць пра ўжыванне алкаголю. 23 чалавекі ў раёне ўжо сёлета "адышлі ў іншы свет" у нецвярозым стане.

Выклікае сур'ёзную заклапочанасць тое, што ў сельскай мясцовасці аслаблена барацьба з п'янствам і самагонаварэннем. Іменна тут найбольш выпадкаў гібелі людзей. Сярэдні ўзрост загінуўшых складае прыкладна 50 гадоў.

П'янства ўвайшло ў быт не толькі людзей старэйшага ўзросту, але і моладзі. Гэта асабліва трывожны факт. Таму і смяротнасць, і нараджальнасць самым непасрэдным чынам звязаны з гэтай праблемай.

Дастаткова сказаць, што летась на Драгічыншчыне нарадзілася 371 дзіця, а памерла 719 чалавек. Сумная статыстыка.

**Галіна АЛЕКСЯЕВІЧ.**

## У вялікае жыццё

**ІВАЦЭВІЧЫ. Закончаны навучальны год, здадзены экзамены. 774 хлопцы і дзяўчыны атрымалі сёлета атэстаты аб сярэдняй адукацыі.**

Колькі з іх прадоўжыць вучобу у сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах, сёння сказаць цяжка. Зразумела адно, што многія будуць спрабаваць свае сілы, каб атрымаць выбраную прафесію. І ў першую чаргу лепшыя з лепшых — медалісты. Іх у раёне — 52. 30 з іх закончылі школу з залатым медалём і 22 — з сярэбраным. Найбольш медалістаў выпушчана ў ліцэі г. Івацэвічы — 22. Іменна яны будуць паступаць у самыя прэстыжныя навучальныя ўстановы. Хацелася б, каб усе медалісты пацвердзілі свае веды і не здарылася, як у мінулыя гады, калі нямала іх проста правалiліся на ўступных экзаменах.

**Мікола ДЗМІТРУК.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 4.07.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500—3000 | 2500—4000 | 2500—3600 | 2500—3700 | 2600—3100 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2800 | 2200—2500 | 2600 | 2700—2800 |
| Алей (1 л) | 800—1200 | 800—1100 | 750—950 | 800—1200 | 900—1200 |
| Яйкі | 850—900 | 800—1000 | 900—1000 | 1000 | 1000—1050 |
| Малако (3 л) | 600 | 600 | 600 | 680 | 600—670 |
| Парэчкі | 500—600 | 400—600 | 500—600 | 400—450 | 570 |
| Масла сметанк. | 2200 | 2000 | 2000 | 2000 | 2100 |
| Бульба | 500 | 600 | 500—600 | 600 | — |
| Цыбуля | 600 | 450 | 500 | 500 | 700 |
| Морква | 1500 | 1600 | 1700 | 1700 | 1500 |
| Капуста | 300—400 | 500—600 | 450 | 550—700 | 300 |
| Памідоры | 1300 | 1700—2000 | 1500 | 2000 | 1000—1200 |
| Чарніцы | 1000 | 1200 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Чарэшня | 1200 | 2000—2500 | 3000 | 3000 | 2000 |
| Грэцкія арэхі | 1800 | 2000 | 1500 | 1300—2100 | 1800 |
| Яблыкі | 800—1500 | 700—1500 | 800—1300 | 800—1500 | 800—1000 |
| Маянэз | 250—400 | 240—420 | 250—420 | 270—450 | 250—520 |
| Вінаград | 5000 | 3800—5000 | 3800—4500 | 4500 | 4000—4500 |
| Агуркі | 400—600 | 550—600 | 500 | 700 | 400—500 |
| Часнок | 1900—2000 | 1800 | 2000 | 1800 | 1300 |
| Лімоны | 1900 | 1400—1600 | 1600 | 1600 | 1100 |
| Апельсіны | 2000—2200 | 1200—1300 | 1300 | 1400 | 1600 |
| Бананы | 1100—1200 | 1000—1200 | 1000—1300 | 1300 | 1200 |
| Клубніцы | 1000 | 1000—1500 | 1200—1300 | 800 | 900 |
| Грэчка | 550—600 | 650 | 650 | 660 | 630 |
| Макар. вырабы | 550—650 | 500—600 | 580—650 | 500—600 | 670 |
| Рыс | 500—550 | 500—520 | 550 | 560 | 600 |
| Манныя крупы | 500 | 460 | 500 | 540 | 530 |
| Проса | 350—400 | 330 | 380 | 400 | 380—400 |
| Цукар | 640 | 600 | 600 | 610—640 | 640 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000-4.100 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1410 | 1500 | 1400 | 1450 | 1400 | 1450 | 1400 | 1450 | 1410 | 1500 |
| 1 дойчмарка | 595 | — | 580 | 610 | 590 | 610 | 587 | 610 | 590 | 610 |
| 1 рубель Расіі | 45 | — | 44 | 46 | 44 | 49 | 46 | 49 | 47 | 49 |

## Пачым парасяты?

**ІВАЦЭВІЧЫ**
50000—65000 (за пару);

**БАРАНАВІЧЫ**
65000—85000 (за пару);

**БЯРОЗА**
50000—65000 (за пару);

**ПРУЖАНЫ**
50000—70000 (за пару);

**ДРАГІЧЫН**
55000—60000 (за пару).



# ХВОРАЯ ЭКАНОМІКА

## — галоўны вораг сённяшніх уладаў



Вінцук Вячорка.

**Вінцук ВЯЧОРКА**, старшыня грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэнне" і Партыі БНФ.

Нарадзіўся ў 1961 г. у Брэсце, закончыў філфак БДУ і аспірантуру інстытута мовазнаўства Акадэміі навук. Лінгвіст, спецыяліст у гісторыі мовы і арфаграфіі. Працаваў у Мінскім дзяржаўным педагагічным універсітэце, у часопісе "Спадчына", намеснікам галоўнага рэдактара якога працуе цяпер. Сузаснавальнік Беларускага гуманітарнага ліцэя. Аўтар каля 80 публікацый па мовазнаўству, гісторыі, паліталогіі.

Вінцук Вячорка — адзін з заснавальнікаў БНФ. Аўтар, сааўтар ці рэдактар большасці франтаўскіх дакументаў і некаторых законапраектаў Апазіцыі БНФ. З 1994 г. — намеснік старшыні БНФ "Адраджэнне" і Партыі БНФ, на 6-м з'ездзе БНФ "Адраджэнне" і на 4-м з'ездзе Партыі БНФ 30—31 кастрычніка 1999 г. абраны старшынёй.

Старшыня рады грамадскай арганізацыі "Цэнтр "Супольнасць". Жонка Ірына па адукацыі матэматык, гісторык навукі, вядзе дзіцячы "Рыцарскі клуб". У сям'і Вячоркаў трое дзяцей. Жывуць у Мінску ў мікрараёне Зялёны Луг.

**Днямі Баранавічы наведаў лідэр партыі БНФ "Адраджэнне" Вінцук Вячорка. У штаб-кватэры рэгіянальнага агенцтва "Варута" ён расказаў прысутным аб тым, якім яму бачыцца далейшае развіццё рэспублікі, аб сітуацыі вакол прэзідэнцкіх выбараў, якія адбудуцца ў верасні. Вось адказы кіраўніка партыі на некаторыя пытанні карэспадэнта "Газеты для вас".**

**— Спадар Вячорка, ці верыце вы ў тое, што кіраванне Лукашэнкі можа закончыцца ў гэтым годзе?**

— Без веры не трэба было б і ўключацца ў перадвыбарчы працэс. У Лукашэнкі, зразумела, самы высокі дадатны рэйтынг, але ў яго і самы высокі адмоўны рэйтынг (каля 35% выбаршчыкаў ні ў якім разе не будуць галасаваць за яго). Калі ўмела скарыстаць гэты момант, правесці адпаведную работу, то можна дабіцца змены ўлады.

**— Якія асноўныя прэтэнзіі вашай партыі і вашых прыхільнікаў да сённяшніх улад?**

— Перш за ўсё адзначу, што галоўны вораг цяперашняга прэзідэнта не апазіцыя, а хворая эканоміка.

Мы не прымаем палітыкі татальнага збліжэння з Расіяй, пасля якой Беларусь можа проста растварыцца, знікнуць з карты Еўропы. Вельмі скептычна ацэньваем эканамічныя дасягненні ўрада Лукашэнкі. Беларусь усё больш і больш адасабляецца ад астатняга свету. Нас забываюць, мы жывем, нібы нейкія адшчапенцы.

**— Але ж ужо абяцаны бюджэтнікам заробак (са жніўня), эквівалентны 100 доларам і больш.**

— У гэта толькі Лукашэнка, напэўна, і верыць. Хаця я дапускаю, што адзін месяц (хутчэй за ўсё — у верасні) бюджэтнікам будзе выплачаны заробак, эквівалентны 100 у. а. Але ён потым або скоціцца, або курс таго ж долара з лёгкасцю перамахне цераз суму, якая раўнялася запаведным лічбам, і заробак зноў стане роўным 40-70 доларам. Эканоміку не падманеш, як людзей.

**— Некалькі слоў пра выбары... Чаму не выстаўлены кандыдат ад БНФ "Адраджэнне"?**

— Мы прытрымліваемся меркавання, паводле якога сярод шэрагу апазіцыянераў патрэбна мець аднаго, на якога і рабіць стаўку, а не абойму, як зараз. Таму наша партыя падтрымлівае Сямёна Домаша, як найбольш, як нам падаецца, перспектыўнага палітыка.

**— Але на выбары ідзе і Зянон Пазняк...**

— Гэта яго права... Мы доўга супрацоўнічалі з Пазняком, добра яго ведаем. Я не хацеў бы каменціраваць яго рашэнне, хоць, упэўнены, больш разумным было б ставіць на аднаго палітыка...

**— А рука Масквы? Народны фронт, як вядома, заўсёды вельмі насцярожана ставіцца да расійскага ўплыву на Беларусь.**

— Што тычыцца выбараў, то няцяжка заўважыць, што Крэмль без асаблівай сімпатыі ставіцца да Лукашэнкі. Нягледзячы на тое, што беларускі прэзідэнт ледзь не ў рот заглядвае расійскаму кіраўніцтву, ім, відаць, надакучыў гэты непрадказальны, мала каму зразумелы палітык. Стаўка Крамля зроблена на Сініцына ці Машэраву.

**— Ваш прагноз на канчатковы зыход выбараў...**

— Пакіну ваша пытанне без адказу. Магчымы любы зыход. Але калі і выйграе Лукашэнка, то гэта пяцігодка, безумоўна, будзе больш цяжэйшай, чым сямігодка прайшоўшая.

**Гутарыў Аляксандр МІХАЛЕНКА.**

# Штаб-кватэры патэнцыяльных кандыдатаў прасякнутыя аптымізмам

**Падыход ініцыятыўных групаў да інфармавання прэсы пра ход выбарчай кампаніі вельмі неаднолькавы. Большасць з іх, безумоўна, жадае, каб імя іхняга кандыдата трапіла ў СМІ, але некаторыя захоўваюць заслону таемнасці.**

Напрыклад, намеснік старшыні КХП БНФ Сяргей Папкоў паведаміў нашаму Радыё, што ініцыятыўная група Зянона Пазняка не будзе паведамляць прэсе колькасць сабраных подпісаў да заканчэння гэтага этапу выбарчай кампаніі.

Дарэчы, гэткае самае рашэнне прынялі ў штабкватэры Леаніда Сініцына. Прынамсі, так сцвярджае Аляксандар Фядута, адзін з блізкіх паплечнікаў спадара Сініцына. Выглядае, што Сініцын зрабіў стаўку на расійскія тэлеканалы, пра што ён і паведаміў ужо ў праграме ОРТ "Времена".

Аднак прадстаўнікі ініцыятыўных групаў іншых прэтэндэнтаў больш ахвотна паведамляюць прэсе пра ход выбарчай кампаніі. Вось што распавяла кіраўніца ініцыятыўнай групы Уладзімера Ганчарыка Валянціна Палевікова:

"Першыя дні паказалі, што ў 50% кватэраў адчыняюць дзверы, і ў палове адкрытых кватэраў, а можа і ў дзвюх трацінах, аддаюць подпісы за Ганчарыка. 22 чэрвеня ў нас ужо было 18 тысяч подпісаў.

Але мы не толькі збіраем подпісы, але і праводзім свой маніторынг. Мы пытаемся ў людзей у кватэрах: за каго яны будуць галасаваць. Паводле маніторынгу, у Мінску за Лукашэнку будзе галасаваць 12%, па Беларусі - 18%.

Мы сёння абмяркоўвалі, што людзі нічога не ведаюць. Яны не чытаюць газетаў. Таму наша задача, асабліва ў рэгіёнах - інфармаваць людзей наогул пра выбары".

Кіраўнік ініцыятыўнай групы Сямёна Домаша Яўген Лабановіч паведаміў, што вынікі збору подпісаў за тыдзень падводзяць шточацвер:

"Таму мы толькі ў пятніцу ведаем, колькі подпісаў сабралі за тыдзень. Але я ўжо меў адпаведныя размовы з некаторымі кіраўнікамі раённых штабоў і магу сказаць, што, напрыклад, у Баранавічах за першыя два дні сабралі 500 подпісаў, у Оршы — 600 подпісаў. Ёсць праблемы ў Кобрыне, дзе некалькі разоў затрымлівалі актывістаў ініцыятыўнай групы Сямёна Домаша і потым адпусцілі.

Што тычыцца стаўлення да кандыдатуры спадара Домаша, то можна сказаць, што больш як 70% людзей у Мінску, калі ім распавядаюць, хто такі Домаш, што ён адзін з галоўных, хто выступае супраць Лукашэнкі, ставяць свой подпіс".

Такім чынам, можна зазначыць, што штаб-кватэры патэнцыяльных кандыдатаў пераважна прасякнутыя аптымізмам. Але найбольшым аптымізмам вылучаецца перадвыбарчы штаб Сяргея Гайдукевіча. Там паведамляюць, што за кіраўніка ЛДПБ ужо сабралі некалькі дзесяткаў тысячаў подпісаў.

**Радыё "Свабода".**

# Улады перасьледуюць

**Найбольш адметныя парушэнні заканадаўства, датычныя ўмяшальніцтва чыноўнікаў у выбарчы працэс, фіксуе на Брестчыне ініцыятыўная група Сямёна Домаша.**

У першую чаргу гэта звязана з затрыманнямі сяброў групы падчас збору подпісаў. Пра тое, як успрымаюць гэтыя затрыманні жыхары невялікіх мястэчак, гаворыць каардынатар ініцыятыўнай групы ў Драгічыне Кастусь Мыслявец:

"Наш сябра Пракопчык стаяў са звычайным плакатам на гарадскім рынку. Тры дні стаяў і тры дні яго забіралі. Дзясяткі людзей гэта бачылі. Яго запіхвалі ў машыну, адвозілі, праз некаторы час ён вяртаўся, але ў такім маленькім гарадку гэта вельмі хутка распаўсюджвалася, і нам гэта шкодзіць, бо людзі баяцца, менш падпісваюцца. Людзі кажуць, што мы галасаваць за Лукашэнку не будзем, але падпісваць баімся".

У Драгічынскім раёне ёсць і іншыя прыклады таго, як мясцовыя ўлады наўмысна перашкаджаюць працэсу збору подпісаў. Намеснік старшыні райвыканкама Карповіч насуперак патрабаванням выбарчага заканадаўства засведчыў падпісныя лісты пячаткай кіраўніцтва гарадской гаспадаркі, што не прадугледжанае правіламі. У выніку 169 подпісаў могуць быць прызнаны несапраўднымі.

З іншых раёнаў брэстчыны паведамляюць, што тым, хто збірае подпісы, абяцаюць непрыемнасці на рабоце, калі яны не адмовяцца ад удзелу ў выбарчай кампаніі. Такія факты ўжо зафіксаваны ў Івацэвіцкім раёне. У некаторых вёсках Бярозаўскага раёна пасля аганізаванага ўладамі збору подпісаў на карысць Аляксандра Лукашэнкі, у жыхароў адбіралі пашпарты, што не дазваляла ім пакінуць свой подпіс за вылучэнне іншых кандыдатаў на прэзыдэнцкую пасаду.

У ініцыятыўных групах дэмакратычных кандыдатаў лічаць, што, нягледзячы на ціск і запалохванне выбаршчыкаў, кампанія збору подпісаў на Брэстчыне ідзе актыўна.

# Выступ Лукашэнкі — выступ кандыдата ў Прэзідэнты

**Выступ Лукашэнкі 2 ліпеня быў даволі кароткі – у межах 30 хвілінаў. Ён не адрываўся ад тэксту, што даволі незвычайна для беларускага кіраўніка.**

Эксплуатацыя тэмы перамогі ўжо трэці раз за апошнія два месяцы была даволі натуральнай. Першы раз гэта было 9 траўня, другі раз – 22 чэрвеня ў Брэсцкай крэпасці, і вось зараз трэці раз.

Вельмі цікавы быў сюжэт аб двух перыядах у гісторыя Беларусі пасля атрымання незалежнасці. Першы перыяд – гэта 1991-95 год, па версіі Лукашэнкі, перыяд разбуральных тэндэнцыяў, калі краіна аказалася перад безданню. А вось пачынаючы з 1995 года, ужо пры Лукашэнку-прэзыдэнце, краіна зрабіла велізарны крок наперад, адбыўся вялікі ўздым эканомікі і ўзроўню жыцця насельніцтва, нацыя, кажучы яго словамі, узнялася з каленаў і пачала распраўляць плечы.

Лукашэнка казаў пра гэта і раней, але не так паслядоўна і канцэнтравана. Зараз на гэта быў зроблены асаблівы акцэнт. Калі папярэднія выступы Лукашэнкі выглядалі як выступы кіраўніка краіны – ён казаў троху аб недахопах, троху аб дасягненнях, нават у дакладзе на "Усебеларускім народным сходзе" было шмат увагі нададзена недахопам. Зараз аб недахопах не было сказана амаль ні слова. Гэта сьведчыць аб тым, што сённяшні выступ Лукашэнкі – гэта выступ не кіраўніка дзяржавы, але выступ кандыдата ў прэзыдэнты.

Цікавы момант. Калі ў пачатку свайго выступу Лукашэнка казаў пра герояў вайны, ён згадаў прозвішча Машэрава, а вось у канцы свайго выступу, калі ён пералічваў вялікіх людзей беларускай зямлі, пачынаючы ад старажытнасці, на гэты раз прозвішчу Машэрава ў пераліку месца не знайшлося. Хаця ў іканастасе герояў савецкіх часоў аказаліся і Панамарэнка, і Мазураў, а вось Машэраву месца не знайшлося. І вядома чаму – бо адным з кандыдатаў у прэзыдэнты зяўляецца дачка Машэрава Наталля.

**Радыё "Свабода".**

# Перашкаджаюць...

У Драгічынскім раёне ідзе збор подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзыдэнты нашай краіны. Члены ініцыятыўнай групы Сямёна Домаша, напрыклад, сутыкнуліся з непрадбачанымі цяжкасцямі. Іх невялікі стэнд з партрэтам Сямёна Домаша і некаторых членаў ініцыятыўнай группы на днях забралі ў райаддзел міліцыі. Праўда, потым адпусцілі. Прыйшлося звяртацца ў пракуратуру і ў камітэт дзяржбяспекі за тлумачэннем. Там запэўнілі, што падобных інцыдэнтаў не паўторыцца. Але ўвесь час у людным месцы прысутнічаюць міліцэйскія назіральнікі, якія, па сведчанні членаў мясцовай ініцыятыўнай групы, правяраюць пашпарт, пасведчанні, перашкаджаючы збору подпісаў.

**Сяргей СЛАВІНСКІ.**
**г. Драгічын.**

# СНАРАДЫ, МІНЫ, БОМБЫ

## яшчэ нярэдкія такія знаходкі ў нашым рэгіёне

**У некаторых раёнах нашага рэгіёну насельніцтва даволі часта знаходзіць боепрыпасы, якія засталіся тут пасля Вялікай Айчыннай вайны. Чаму? Што робіцца для таго, каб лакалізаваць праблему? На гэтае і на многія іншыя пытанні адказвае начальнік 2-га аддзялення Пружанскага райваенкамата Міхаіл Сель.**

**— Міхаіл Міхайлавіч, шмат якія выданні часта паведамляюць аб чарговай небяспечнай знаходцы на Пружаншчыне. Чым тлумачыцца гэта?**

— Партызанскі рух на Пружаншчыне быў асабліва развіты і, трэба думаць, тут, у лясах, змагаліся сапраўдныя партызаны. Дарэчы, наш раён не ў аднолькавай ступені адзначаны падобнымі знаходкамі: у так званых шарашоўскай і пружанскай зонах боепрыпасы знаходзяць не так часта, а вось тэрыторыя вакол райцэнтра, пружанская зона, нашмат больш нашпігавана снарадамі, мінамі, гранатамі, бомбамі...

**— Ёсць меркаванне, што боепрыпасы, якія доўга праляжалі ў зямлі, не ўяўляюць вялікай небяспекі...**

— Гэта абсалютна памылковая думка. Наадварот, іржаўленне снарада, бомбы, міны, гранаты робіць боепрыпас яшчэ больш небяспечным. Асабліва гэта тычыцца мінамётных мін — гэта самая небяспечная "цацка".

Увогуле, знойдзеныя боепрыпасы класіфікуюцца па катэгорыях: самыя небяспечныя не транспарціруюцца, іх ліквідацыя адбываецца на месцы знаходкі. Калі знойдзены боепрыпас на погляд сапёраў можа быць транспарціраваны, то яго перавозяць у спецыяльна адведзенае для выбухаў месца.

**— А хто займаецца разміраваннем?**

— Група сапёраў выклікаецца са Слоніма. Калі боепрыпас асабліва небяспечны, выклікаецца група размініравання з Мінска. Так было і 10 мая гэтага года, калі авіябомба вагою пад 100 кілаграм была знойдзена каля Пружан. Вось гэта знаходка! Яе не сталі транспарціраваць, а ўзарвалі на тым месцы, дзе знайшлі. Можаце ўявіць, якая была сіла выбуху.

**— Хто і калі звычайна знаходзіць боепрыпасы?**

— Знаходзілі загадчык гаража калгаса "Савецкі", трактарыст, які араў поле, адзін з жыхароў г. Пружаны, які ішоў на рыбалку і знайшоў снарад на ўскрайку поля. Нават шасцікласнік знайшоў снарад. Ён, дарэчы, паступіў вельмі разумна і адразу накіраваўся ў сельскі Савет і паведаміў аб знаходцы.

Часцей за ўсё знаходзяць падчас сельскагаспадарчых работ у красавіку-маі, верасні-кастрычніку.

**— Якімі павінны быць дзеянні таго, хто знайшоў падобную "цацку"?**

— Грамадзяне павінны ведаць, што ў выпадку знаходжання любога прадмета, знешне падобнага на боепрыпас, неабходна тэрмінова паведаміць аб гэтым дзяжурнаму па райваенкамату. Тэлефон — 7-13-56. Або органам міліцыі, улады.

**— Знойдзены боепрыпас ахоўваецца?**

— Канешне! Ахову забяспечвае Пружанскі РАУС, супрацоўнікі якога праводзяць дзяжурства каля небяспечнай знаходкі да таго часу, пакуль не прыбудуць сапёры са Слоніма ці Мінска.

**— Як справы ў гэтым годзе? Ці не паменшылася колькасць "выкапняў" у параўнанні з 2000 годам?**

— У гэтым годзе ўжо чатыры выпадкі знаходжання боепрыпасаў мелі месца на Пружаншчыне. А ў 2000 годзе мы 10 раз вырашалі падобнае пытанне: былі знойдзены 5 артснарадаў, 3 мінамётныя міны, 2 гранаты...



Аляксандр Горбач.

**Выклік можа прыйсці ў любую хвіліну.**

●

У астатніх раёнах нашага рэгіёну сітуацыя наступная: у Бярозаўскім і Драгічынскім раёне такія знаходкі больш рэдкія, у Баранавіцкім і Івацэвіцкім — больш частыя. У Баранавіцкім раёне за 2000 год знойдзена 58 боепрыпасаў; гранаты, снарады, бомбы знаходзяць нават у межах горада.

Сем артснарадаў і тры мінамётныя міны знойдзены за 2000 год на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна. У асноўным, у Целяханскай зоне, у межах вёскі Выганашчы.

У 2001 годзе знойдзены мінамётная міна на полі каля вёскі Любішчыцы, артснарад — каля в. Квасевічы (забойная сіла яго асколкаў — 500 метраў), зноў-жа мінамётная міна — ў в. Краглевічы. А ў пачатку мая школьнікі Целяханскай сярэдняй школы ўвогуле "прытаранілі" ў музей процівапехотную гранату часоў першай сусветнай вайны. Як тут не ўспомніць фільм "Трамбіта", у якім гаспадыня ў якасці процівагі выкарыстоўвала процівапяхотныя міны...

●

Літаральна на днях 200-міліметровы артснарад у агародзе знайшоў жыхар Вулькі-Целяханскай, 76-міліметровы — знойдзены каля в. Амяльная, граната — у межах вёскі Краглевічы (Івацэвіцкі раён).

**Падрыхтаваў**
**Александр ГОРБАЧ.**

# Здароўе прызыўніка

**Спярша некалькі лічбаў. З 275 юнакоў, што прайшлі медыцынскую камісію, прызнаны непрыгоднымі да ваеннай службы 38 чалавек, яшчэ 57 чалавек знаходзяцца на дадатковым медыцынскім абследаванні. Не цяжка падлічыць, што амаль 14 працэнтаў юнакоў прызыву гэтага года не стануць абаронцамі нашай краіны, а з 27 працэнтаў прызыўнікоў, стан здароўя якіх яшчэ выклікае заклапочанасць, не ўсе могуць стаць у салдацкі строй.**

Такім чынам, звыш 40 працэнтаў драгічынскіх юнакоў, непрыгодныя і з аслабленным здароўем, гэта ўжо не сапраўдныя салдаты.

Па словах раённага ваеннага камісара Аляксея Салаўя, каб зменшыць рост захворванняў сярод моладзі, трэба прымаць кардынальныя меры да бацькоў прызыўнікоў і работнікаў аховы здароўя, узмацніць, так сказаць, ролю школы па павышэнні ўзроўню фізічнай падрыхтоўкі моладзі.

Як быццам бы і праўду кажа ваенны камісар. Але ж, на мой погляд, гэтая праўда аднабокая. Каб патрабаваць ад бацькоў, медыкаў і работнікаў адукацыі павышэння і ўмацавання здароўя будучых абаронцаў краіны, трэба ж ведаць, у якіх умовах жывуць тыя ж прызыўнікі. Праўда, пра гэтыя ўмовы той жа ваенком не гаварыць. Трэба ж прызнаць, што матэрыяльныя ўмовы жыцця большасці нашых людзей вельмі цяжкія. Мізэрныя зарплаты, нізкія даходы не дазваляюць даць нашым дзецям добрае харчаванне — аснову асноў фізічнага развіцця маладога чалавека.

Да гэтага трэба дадаць, што частка тэрыторыі Драгічынскага раёна пацярпела ад выбуху на Чарнобыльскай АЭС, там павышана радыяцыя, што таксама адмоўна ўплывае на здароўе людзей, асабліва моладзі.

Таму вывад напрошваецца адзін: стануць лепш жыць нашы людзі, палепшае і здароўе будучых прызыўнікоў. Калі гэта адбудзецца, невядома. На жаль, за апошнія сем гадоў жыццё працоўных нашай краіны пагоршылася. Такая рэальнасць.

**Антон ХВЕДАРЧУК.**
**г. Драгічын.**

# А сыновья идут служить...

**Идёт очередная призывная кампания. У родителей всегда на сердце неспокойно перед отправкой сыновей в армию. В связи с этим мы попросили ответить на наши вопросы людей, которые в своё время прошли школу Вооружённых Сил и сегодня имеют своё мнение по организации военной службы в нашей республике.**

Итак, знакомтесь:

**Игорь Львович КИЗНЕР** — зам. директора по хозяйственной части Берёзовской ГРЭС, **Валентин Михайлович ОКОВИТЫЙ** — помощник директора по кадрам, **Любомир Григорьевич ТАРАЩУК** — начальник штаба ГО.

**— В некоторых государствах нашей планеты армия носит чисто символический характер: национальная или почётная гвардия. Возможно, и Беларусь могла бы ограничиться двумя родами войск: пограничными и внутренними?**

**Л. Таращук:** — Ну отчего же? В государстве должна быть боеспособная, мобильная армия. Другое дело, что пора бы её сократить до разумных пределов и оснастить по последнему слову техники.

**В. Оковитый:** — Наши Вооружённые Силы, безусловно, требуют модернизации.

**— Защита Отечества испокон веков считалась почётной мужской обязанностью. А нынешнюю молодёжь можно считать правопреемниками наших дедов и отцов?**

**В. Оковитый:** — Хотелось бы. В наше время (начало 60-х) редкими были случаи уклонения от службы в армии. Белобилетники (так называли тогда освобождённых от военной обязанности) чувствовали себя ущербными и комплексовали по этому поводу в компаниях сверстников.

**Л. Таращук:** — Должны наши парни чтить преемственность поколений. Для нас, чьё детство связано с военными лихолетьями и послевоенной разрухой, понятия Родина, честь, долг были не пустыми словами. Сегодня же часть призывников вместе с родителями считают, что полтора года службы в армии — это неоправданная потеря времени при достижении поставленной в жизни цели.

**— Вы видите взаимосвязь между понятиями женщина и армия?**

**В. Оковитый:** — Почему бы и нет, если есть призвание? Женщины могут служить на участках, не связанных с оружием.

**Л. Таращук:** — Пусть себе служат, только подальше от мужчин. Они отвлекают и дестабилизируют обстановку в рядах военнослужащих.

**— Если бы президент устроил референдум по вопросам: служба в Вооружённых Силах Беларуси — долг каждого гражданина республики или же служба на контрактной основе. Вы за какую формулировку голосовали бы?**

**А. Таращук:** — Боеспособность армии была бы выше, перейди она строго на контрактников. За полтора года безусый паренёк не станет военным специалистом. За это время он сможет получить только азы, общую военную подготовку. А этому можно научиться и вне армии.

**И. Кизнер:** — Мировой опыт показывает, что служба на контрактной основе — это решение многих больных вопросов нашей армии. Здесь нет случайных людей. Здесь весь механизм овладения военными науками и их совершенствование отточен и отлажен до автоматизма.

**— Родители призывников опасаются за здоровье и жизнь своих сыновей по причине процветания неуставных взаимоотношений между военнослужащими, приобщения их к алкоголю...**

**В. Оковитый:** — Эти беды нашего общества острее проявляются в армии из-за низкой дисциплины офицерского корпуса. Не секрет, что престиж армии упал и налицо отток из армии молодых офицеров с техническим образованием. В наше время так называемой "дедовщины" не было.

**И. Кизнер:** — У военнослужащих много свободного времени из-за нечётко распланированного режима дня. Зачастую они предоставлены сами себе. Здесь же и слабый контроль со стороны офицерского состава, и низкая ответственность их за своих подчинённых. Такое понятие как честь офицера сегодня потеряло свой истинный смысл. И опять же — дисциплина! Это у нас церковь отделена от государства, а армия — неотъемлемая часть его. Каково положение в стране, таково и состояние армии.

**— Служба для многих парней проходит почти в домашней обстановке, в двух-трёх десятках километров от места жительства. Как, по-вашему, это отражается на армейской дисциплине.**

**Л. Таращук:** — Здесь есть свои плюсы и минусы. Родные могут часто навещать солдата, а это очень большая моральная поддержка. К тому же привозят с собой домашнюю пищу. С другой стороны, на выходные дни можно пойти или поехать в увольнение под крышу дома своего. А армейская дисциплина, наверное, теряет свои позиции.

**И. Кизнер:** — Всё зависит от назначения части и от порядка в ней. И немаловажную роль в этом вопросе играет влияние родителей.

**— Некоторые молодые люди по религиозным и другим соображениям отказываются проходить службу в срочной армии. А как вы относитесь к альтернативной службе?**

**В. Оковитый:** — Положительно. Только нужно точно знать, что это не предлог уклониться от службы вообще. Есть много подсобных служб, где нет нужды брать в руки оружие. Весь мир так живёт.

**И. Кизнер:** — Конечно, судимые, религиозно настроенные призывники должны проходить альтернативную службу. Закон о всеобщей воинской обязанности должен оговаривать этот вопрос.

**— Если произойдёт объединение Вооружённых Сил Росии и Беларуси, как этот факт может сказаться на наших военнослужащих?**

**И. Кизнер:** — Есть опасение, что наши ребята пойдут служить за пределы республики, в горячие точки, в Чечню.

**Жанна КУЛАК.**
**г. Белоозёрск.**

# ВОЛЬНЫ РЭГІЁН



*Кто не видел на стенах домов, заборов, гаражей непонятные, порой странные надписи и рисунки совершенно немыслимых форм и расцветок. Они быстро появляются и так же быстро исчезают. Это не что иное, как ГРАФФИТИ...*

# Слово на заборе - тоже ИСКУССТВО!

Все рисунки сперва созревают в черепной коробке райтера

## Из истории

Само слово "ГРАФФИТИ" было впервые введено итальянцами в 1775 году на раскопках города Помпеи и в переводе с итальянского языка оно означает "царапанье, рисование на плоской поверхности.". Для тех, кто не знает: слово "ГРАФФИТИ" правильно произносить надо с ударением на первую "и".

Точкой отсчёта начала современной настенной живописи являются 70-е годы XX-го века. Произошло всё это в Нью-Йорке. Первым, кто отметился на стенах города, был райтер по кличке "TAKI 183". Он просто нацарапал на стене свою кличку... После этого стало модным придумывать себе кликухи и писать их заковыристым шрифтом на стенах. Стены в то время были просто "убиты" тагами. Потом бравым ребятам из Нью-Йорка наскучило просто тратить краску на какие-то подписи, и появились первые цветные рисунки....Они были низкого качества и состояли из малого количества цветов. Прошло время, граффити стало частью популярной в то время хип-хоп культуры. Рисунки приобрели божеский, а подчас и идеальный вид. Художников стало появляться всё больше и больше. Создавались своеобразные команды из нескольких райтеров. Для



Аэрозольные баллончики – основной инструмент для расписывания стен.

более острых ощущений райтеры спускались в "подземки" и приводили поезда в совершенно неприглядное состояние.

В бывший СССР граффити попало в конце 80-х годов, но лишь спустя более 10 лет, заполнило умы тинейджеров и, перехлестнув через край, вылилось в доселе невиданные причудливые узоры на серых улицах. Сегодня можно просто гулять по улицам и постоянно встречать всё новые и новые работы. Надо признать: граффити в Беларуси перестало быть забавой немногих. Доступность баллончиков и стен сделали сей вид наскальной живописи массовым.

## Райтеры — кто они!

Обычные молодые люди с достаточно развитым воображением и разнообразными интересами. У каждого из них свой взгляд и понимание граффити, будь то бомбинг или легальные стены.

Какова же причина появления этих произведений? Возможно, в самовыражении людей их создающих. Ведь многие из этих "шедевров" содержат в себе тонкий философский смысл и являются своеобразным проводником в мире человеческих отношений. Как и любое другое искусство, граффити несёт в себе смысловую нагрузку. Сами надписи – это что-то вроде самовыражения или обращения к миру художника. Ну это вроде: "что думаю, то и рисую". Что бы ни говорили суровые поборники чистых стен, граффити по-прежнему остаётся одним из самых уникальных урбанистических направлений в хип-хоп культуре. Это прежде всего искусство, с богатым прошлым и, несомненно, светлым будущим.

**А вот что говорят о себе райтеры Берёзовщины:**

**Mistery** (с виду – обычная девчонка): "Занимаюсь второй год. Как я к этому пришла? Стали заниматься друзья, решила тоже попробовать. Рисую на стенах, подальше от города. Темы сами приходят в голову. Сначала делаю эскизы на бумаге.

**Ray**: "Занимаюсь граффити уже три месяца. Считаю, что наше искусство должно радовать человеческий глаз. В свой тэг Ray я вкладываю значение: "луч света в тёмном царстве". Для меня граффити – это умение создать картину и, конечно, немного философии. Темы беру из англо-русского словаря, выбираю оттуда несколько слов со смыслом. Остальное –дело техники и воображения."

Начиная рисовать, сталкиваешься с кое-какими трудностями: линии кривые, краска течёт,руки грязные. Мастерство приходит со временем, и если у начинающего райтера хватает терпения и желания продолжать дело, то через некоторое время он открывает такое понятие, как стиль.

## Стили

Стиль – основная и, по мнению большинства райтеров, важнейшая черта граффитчика-профессионала. "Идея фикс" любого райтера – слава, внимание окружающих, признание и уважение соратников. Количество может завоевать и принести тебе славу и внимание, но без качества – вряд ли полное уважение других райтеров. Оригинальный стиль всегда будет одобрен и признан братьями по баллончику. Глаза будут закрываться на мелкие ошибки и помарки до тех пор, пока будет иметь место развитие и прогресс в качестве и стилистическом построении работ.

За не очень длинную историю граффити были изобретены три основных стиля написания своих мыслей на стене:

1.WILD STYLE – это когда всё красиво, но ничего не понятно. В этом стиле значение слова или фразы полностью теряется. Главное – красота. Довольно трудный стиль, но самый распространённый среди профессионалов.

2.BUBLE LETTERS – всё простенько, но со вкусом – один из самых первых и старых стилей в граффити. Главное в нём – мягкость и объёмность форм. "Бабл" используется в основном для бомбинга (см. словарь - bomb). С него начинают все.

3.FX STYLE (или daim style) – о-о-очень сложный и в написании, и в раскраске стиль. Буквы трёхмерные и часто завёрнуты настолько, что вартеряешь чувство реальности букв. Кажется, что до них можно дотронуться рукой. Но это только, если буквы хорошо разукрашены.

Также в надписях используются всяческие "фишки": пузырьки, разломы, торчащие из букв предметы. В общем, есть над чем повоображать. Райтеры любят вставлять в рисунки *кереков* (от англ. слова character - персонаж), иногда очень "прикольных". В рисовании на стенах не любят тех, кто копирует чей-то стиль. Это не есть хорошо!!!!

## Варварство или искусство!

**Вот что думают по этому поводу жители г.Берёзы:**

**Анатолий Морозюк, художник**: "К граффити отношусь более чем положительно. Особенно если граффити выполнено на высоком художественном уровне, как, допустим, граффити на здании бывшего райкома комсомола – изображение мыши. Кто-то его затёр... Очень об этом сожалею. Обилие серых, угрюмых стен не красит наш город. Этим ребятам нужно выделить стену под действительно высокохудожественные граффити, естественно, без матерщины и порнографии."

**Н., участковый милиционер:** "Если это красивые рисунки, то они имеют право на существование. Правда, всему своё место. Допустим, на улице Ленина, на мой взгляд, эти рисунки неуместны, а где-то на стенах гаражей, задворках – почему бы и нет."

**Людмила Кисель, методист по работе с детьми и молодёжью отдела культуры райисполкома**:"Моё отношение к граффити совершенно отрицательное, вплоть до того, что считаю – этих ребят надо наказывать за порчу фасадов. Это варварство, портится эстетический вид города. Допускаю, что в определённых местах, где собирается молодёжь, например, в парке, можно отвести кусок стены для этих рисунков. Но я против, чтобы это было на улицах, на зданиях."

Мнения разделились. А вот что говорит об этом "райтерша" **Mistery**: "Мнения других меня не интересуют. Мне это нравится и я буду рисовать. Если нам отведут стену – я поддержу это обеими руками!"



Иногда на стенах встречаются весьма интересные сюжеты.

Действительно, бороться с граффити бесполезно. Так не лучше ли на самом деле отвести в наших городах участки стен, на которых все любители этого вида стрит-арта могли бы вполне законно и легально "вывешивать" свои произведения, не портя при этом фасады домов.

**Полосу подготовил Николай Синкевич, фото автора.**

### Как делаются граффити

**1. Первый шаг - сделать скетч. Чем он лучше и реалистичнее, тем качественнее получится настенный вариант. Скетч рисуют для того, чтобы лучше ориентироваться на стене, прикинуть, сколько надо баллонов.**

**2. Ну и, конечно, надо найти баллоны.**

**3. Итак, теперь можно приступить к стене! Тут нет единого способа начинания работы - кто-то сразу льет краску, кто-то намечает мелками контуры будущего шрифта или персонажа.**

**4. А теперь о закрашивании... По традиции, идут от светлых цветов к темным, от внутренностей букв к обводке - то есть обводку обычно следует делать в последнюю очередь.**

**5. Делается фон, обводка. Оценивается качество. Подтираются подтеки.**

**6. И, наконец, тэг (подпись) на память!**

### Краткий словарь райтера

**Writer** (райтер) – тот, кто рисует граффити.

**Crew** (крю) - несколько (а порой и очень даже много) райтеров, объединённых в одну команду.

**Bomb** (бомб) **или throw-up (тру-ап)** - быстрый рисунок, как правило делается в "bubble letters" и отражает название крю или самого райтера. Рисуется краской, зачастую используется 1-2 (иногда 3) цвета. Самые распространённые - чёрный/серебряный (белый) и жёлтый/красный.

**Sketch** (скетч) - набросок, эскиз. Может быть как чёрно-белым, так и раскрашенным.

**Tag** (тэг) - это подпись райтера. Пишется либо краской, либо маркером. Один цвет, как правило, или чёрный, или белый.

**Piece** (пис) - рисунок, который отражает стиль и умение райтера. Рисуется краской, используется столько цветов, сколько пожелает рисующий.

**Burner** (бурнер) - особо яркий и выдающийся piece (как по подбору цветов, так и по размерам).

**Toy** (той) - неопытный человек в граффити, желторотик.

# “Я ВЕРЫЛА БАЦЬКУ...”

**Лідзія Фёдараўна Ахрамовіч, ураджэнка вёскі Галенчыцы Івацэвіцкага раёна, зайшла ў рэдакцыю, каб падзяліцца сваёй радасцю. Зусім нядаўна яна даведалася, што яе бацьку Ахрамовіча Фёдара Лукіча, забранага адразу пасля вайны ў сталінскія лагеры як ворага народа, рэабілітавалі, гэта значыць, што справу пераглядзелі ў судзе і аб’явілі, што ён не вінаваты ні ў чым.**

— Я ўсе гэтыя гады верыла бацьку, — сказала Лідзія Фёдараўна. — Які ж ён вораг народа? Нам жа скалечылі ўсё жыццё. Напішыце аб гэтым, хай людзі ведаюць...

...Сям'я Ахрамовічаў жыла ў Галенчыцах. Пяцёра дзяцей гадавалі. Бацькі займаліся ўласнай гаспадаркай. Вайна, што прыйшла на нашу зямлю, стала трагедыяй для ўсіх вяскоўцаў. Неяк улетку ў першы год вайны ў вёску завіталі немцы і паліцаі. Загадалі сабрацца ўсім у адным месцы. На парадку дня было адно пытанне: выбары старасты або, як казалі тады, солтыса. Прапаноўвалі чужога чалавека, але жыхары не схацелі і прапанавалі свайго.

— Фёдара Ахрамовіча трэба выбраць, — прапанаваў нехта з вяскоўцаў.

— Фёдара, Фёдара! — падтрымалі іншыя жыхары.

Так Фёдар Ахрамовіч стаў старастам Галенчыцаў. Яму было ўжо пад пяцьдзесят, узрост, калі чалавек, маючы жыццёвы вопыт, можа разважліва і па-добраму разабрацца ва ўсіх абставінах і канфліктах, што ўзнікаюць у вёсцы. Сярод жыхароў Ахрамовіч лічыўся добрым гаспадаром, карыстаўся давер'ем і павагай. Пры выбары яго старастам немалаважную ролю адыграла тое, што ён крыху ведаў нямецкую мову. Гэтае веданне Ахрамовіч здабыў, так сказаць, у час першай сусветнай вайны. Яшчэ тады ў складзе царскай арміі ён ваяваў супраць немцаў, прыходзілася ахоўваць палонных. Вось і навучыўся трохі гаварыць і разумець па-іхняму.

Пасада старасты не ўсімі вяскоўцамі ўхвалялася, той-сёй за вочы называў Ахрамовіча нямецкім халуём. Яму прыходзілася па загаду немцаў пасылаць мужчын на розныя работы, выдзяляць павозкі для нарыхтоўкі і вывазкі лесу.

Калі ў акрузе паявіліся партызанскія групы, а потым атрады, то Фёдар Ахрамовіч быў першым сувязным. Усе звесткі партызаны здабывалі іменна праз яго. А жонка Ганна Іванаўна часта пякла хлеб, які народныя мсціўцы забіралі ў лес.

Як мясцовы паліцай Косцік (так называлі яго ў сяле) не сачыў за хатай Ахрамовіча, ніяк не мог спаймаць за руку старасту і выдаць немцам. Аднойчы той жа Косцік высачыў параненага савецкага афіцэра, які паблізу Галенчыцаў прабіраўся па


Фёдар Лукіч Ахрамовіч (фота 1945 г.).

лясной дарозе на ўсход.

Прыгнаўшы яго ў вёску, прывязаў вяроўкай да ложка, пайшоў шукаць каня, каб адвезці спайманага ў Івацэвічы. Але ў сяле ніхто не даў яму падводу, каб здаць афіцэра немцам, а, наадварот, адгаварвалі яго, каб адпусціў палоннага, але паліцай не згадзіўся, дзесьці знайшоў каня і адвёз афіцэра і здаў у рукі немцам.

А на другі дзень (гэта было ў сярэдзіне верасня 1943 года) у вёсцы нечакана з’явіліся немцы. Яны акружылі сяло з усіх бакоў. Паклікалі да сябе солтыса Ахрамовіча.

— Хто памагае партызанам? — запыталі ў яго.

— Ніхто, паночкі. Ніхто. Ніводзін чалавек...

Ахрамовіч стаў на калені і пачаў хрысціцца.

— Не паліце і не страляйце. Усе людзі ў нас мірныя. Ніхто ў лес не ходзіць. Пашкадуйце людзей!

Пашкадавалі, але не ўсіх. Некалькі сямей усё-ж расстралялі.

— Збірай усіх людзей за вёску на пляц...

Праз паўгадзіны вяскоўцы сабраліся на полі паблізу першай хаты, калі ўязджаеш у Галенчыцы з боку Яглевічаў.

На вачах жыхароў усе пабудовы спалілі. У вёску нікога не пускалі, аднаго чалавека яшчэ расстралялі. Калі ўсё дагарала, немцы і паліцаі паехалі. Галенчыцы напаткаў лёс Красніцы і Бабровічаў, Вяды і Тупічыцаў, Заціšша і Зыбайлаў...

Сёння старажылы Галенчыцаў сцвярджаюць, у тым ліку і Ганна Іванаўна, маці Лідзіі Фёдараўны, што іменна Фёдар Ахрамовіч выратаваў вяскоўцаў ад гібелі. Відаць, так яно і было.

Сям'я Ахрамовічаў жыла спярша ў сваякоў у Яглевічах, а калі немцаў з раёна прагналі, перасяліліся ў Галенчыцы ў зробленую зямлянку. Меркавалі пабудавацца на спаленай сядзібе. Але мара не збылася. Неяк зранку Фёдар Ахрамовіч паехаў на млын у Івацэвічы, каб змалоць жыта. Адтуль не вярнуўся. Там яго арыштавалі. Аказалася, што нехта з Галенчынцаў напісаў у міліцыю ліст, у якім паведаміў, што ў час вайны Фёдар Ахрамовіч служыў немцам, быў іхнім памагатым. Так Ахрамовіч апынуўся ў спісе ворагаў народа. Завезлі яго ў сталінскі ГУЛаг, які размяшчаўся ў тайзе ў Комі АССР. Там Ахрамовіч у 1951 годзе заўчасна памёр.

Лідзія Фёдараўна расказала, што яна помніць бацькавы пісьмы, асабліва ягоныя малюнкі, на якіх быў лес, заяц, што бяжыць, агароджа з калючага дроту і вышкі, на якіх стаяць ахоўнікі з вінтоўкамі.

“Беражы дзяцей, — звяртаўся Ахрамовіч да жонкі, — асабліва Ліду”.

Зберагчы ўсіх дзяцей Ганна Іванаўна не змагла. Не змагла і пабудавацца ў Галенчыцах. Калі стаў калгас, то мясцовыя брыгадзіры часта папракалі Ахрамовічаў за тое, што іх бацька вораг народа, не давалі каня. Прыходзілася на санках цягаць дровы з лесу. Бывала, што і вокны ў зямлянцы білі.

— Пайшла мая маці ў міліцыю, — успамінае Лідзія Фёдараўна, — і расказала начальніку пра сваё жыццё. А ён і кажа: “Твайму мужыку кол на магіле паставілі, а ты хочаш нейкай дапамогі”. Заплакала маці і пайшла дамоў. І больш ніколі, як ні было цяжка, у міліцыю не звярталася.

Жыццё прымусіла Ахрамовічаў перабрацца ў Яглевічы. Тут купілі невялікую хатку. Працавалі ў калгасе. Ліда закончыла курсы трактарыстак і 17 гадоў кіравала, так сказаць, стальным канём. Выйшла замуж, выгадавала сына Аляксандра, які, дарэчы, як і маці, стаў трактарыстам. Пра свайго дзеда Фёдара ведае са слоў маці. І зараз, хаця і праз многа гадоў пасля вайны, ганарыцца сваім дзедам, які ніколі не быў ворагам народа.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Івацэвіцкі раён.**

# БЕЛАРУСЬ В ФОКУСЕ МИРОВОГО ВНИМАНИЯ

**Недавно достоянием гласности стал очередной доклад Международного центра против цензуры “АРТИКЛЬ 19” под названием: “Беларусь: механизм репрессий. Препятствия на пути к свободным и честным выборам в Беларуси”. Попытка представителей этой международной организации презентовать свой Доклад оказалась неудачной. Белорусские власти просто отказали им во въездных визах. Выходом из сложной ситуации стало перенесение времени презентации Доклада.**
**Что же написали эксперты “Артикля 19” ? Не напугало ли белорусские власти содержание этого Доклада?**

Изучение объемного текста Доклада показывает, что он не доставит “радости” белорусской официальной стороне. В нем констатируется дальнейшее ухудшение ситуации в отношении свободы выражения мнения и отмечаются многочисленные попытки властей подавать деятельность негосударственных печатных СМИ.

Доклад содержит общий анализ ситуации со СМИ в Беларуси, включая принятие дополнений в Закон о печати в декабре 1999 года, репрессивные меры против газет, ход и итоги парламентских выборов 2000 года и роль СМИ во время предвыборной кампании.

Основной акцент в Докладе сделан на правовых препятствиях на пути к свободным и честным выборам. Здесь отмечается, что в Беларуси практически не существует доступа оппозиции к финансируемым государством СМИ. То, что белорусские власти преподносят как благодеяние — право на бесплатное появление на государственном ТВ и радио — в Докладе называется пережитком прошлого. В европейских странах кандидаты могут свободно покупать эфирное время. Только были бы деньги.

Международные эксперты подвергают критике положения Закона о печати (ст.5), Уголовного кодекса (ст.ст. 367, 368, 369), президентских декретов, которые устанавливают ответственность за клевету или оскорбление чести и достоинства Президента и других высокопоставленных официальных лиц. По их мнению, это — грубейшее посягательство на свободу выражения мнения. Еще в 1986 году Европейский суд по правам человека своим решением по делу Лингенс против Австрии заявил, что политики “сознательно и неизбежно подвергают (себя) открытому и пристальному вниманию к каждому своему слову и действию со стороны журналистов и широкой общественности ... и, как следствие этого, (они) должны демонстрировать более высокую степень терпимости, чем обычные члены общества. Далее Суд признал, что политики обладают правом защиты своей репутации, но “требования подобной защиты должны быть выдвинуты в отношении интересов открытого обсуждения политических вопросов”.

Особую критику экспертов вызвал законопроект об информационной безопасности. Как отмечено в Докладе, он находится в явном противоречии с конституционными и международными обязательствами Республики Беларусь по отношению к свободе выражения мнений, поскольку предполагает практически полный контроль государства над информацией во всех сферах жизни.

Весьма интересно, что требование указанного законопроекта о распространении исключительно “полной, точной и своевременной информации” отклонено многими национальными судами. Оно рассматривается как дополнительный инструмент для фильтрации и ограничения информации, доступной общественности. По мнению экспертов, такое требование налагает тягостную ношу на журналистов для выполнения более чем жестких требований к точности. В любом случае это явилось бы серьезным препятствием в отношении свободы прессы.

Эксперты “Артикля 19” предлагают белорусским властям отклонить законопроект об информационной безопасности, поскольку он подвергает большому риску основное право на свободу выражения мнения, а также на получение и распространение информации.

В Докладе достаточно подробно описан механизм репрессий на Беларуси. Это — и исчезновение известных общественных деятелей, включая оператора ОРТ Дмитрия Завадского; и безосновательные предупреждения в адрес независимых изданий, которые критикуют власть; и произвольные налоговые проверки, которые являются своеобразными карательными актами со стороны властей; и подрыв полиграфической базы путем экспроприации частных типографских станков; и дискриминация в сфере установления тарифов на распространение печатной продукции; и фактический запрет на рекламу в негосударственных изданиях; и препятствия с арендой помещений; и не основанная на законе перерегистрация негосударственных газет; и кражи со взломом, которые с завидным постоянством случаются в офисах негосударственных газет и организаций.

Европейцы “прописали” белорусским властям полезные советы как исправить ситуацию в сфере СМИ и обеспечить подлинную свободу выражения мнения и информации. Рецепты эти простые и понятные. Вот только некоторые из них: 1) власти должны уважать право СМИ и журналистов свободно и беспрепятственно передавать информацию по всем вопросам, представляющим интерес для общества; 2) ни одному журналисту не должно быть отказано в возможности заниматься профессиональной деятельностью; 3) ни одно СМИ не должно быть ликвидировано, не должна быть даже временно прекращена его деятельность; 4) ни одному СМИ не должно быть отказано в регистрации; 5) ни одному СМИ не должны мешать осуществлять печать изданий или отказывать в доступе к информации на основании содержания их публикаций или природы определенного органа СМИ; 6) не должно существовать ограничений на содержание сообщений; случаи же ограничений должны быть четко определены и вводиться в особых целях, в соответствии с международными нормами о правах человека; 7) правительство должно предпринять безотлагательные шаги, чтобы уменьшить существенное преобладание государственных печатных СМИ, а также создать среду для свободной работы всех составляющих СМИ.

В общем, у нас остается еще большой резерв для улучшения ситуации. Для начала люди должны получить возможность свободно высказывать свое мнение по всем вопросам, в том числе о своем правительстве. А правителя у нас вообще быть не должно. Если он будет, то нам не позволят высказываться о нем неуважительно. Значит, репрессии будут продолжаться и петля на шее общества — затягиваться все сильнее.

**P. S. Текст Доклада уже “гуляет” на информационных просторах страны как на английском, так и на русском языках. Автор Доклада известен. Это - Мальком Гоукс. Вы можете с ним связаться по электронной почте6 malcolm @ hawkes.com, а также можете с ним поговорить лично в период представления Доклада в г. Минске с 9 по 13 июля 2001 года.**

**МИХАИЛ ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук, руководитель Центра правовой защиты СМИ при ОО “Белорусская ассоциация журналистов”.**

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — сын наш геройскі



**П. Сергіевіч. Каліноўскі сярод паўстанцаў.**

**У гісторыі нашай Беларусі асобнае месца займае дзейнасць і творчасць Вікенція Канстанціна Сямёнавіча (Кастуся) Каліноўскага. Гэта — выдатны рэвалюцыянер-дэмакрат, паэт і мысляр, публіцыст, правадыр паўстання 1863—1864 гадоў на землях Беларусі і Літвы. Ён упісаў яскравую старонку ў гісторыю вызваленчага руху і культуры беларускага народа. Кастусь Каліноўскі пакінуў неўміручую публіцыстычную, паэтычную і дакументальную спадчыну, галоўную частку якой складаюць сем нумароў газеты "Мужыцкая праўда" і палымяныя "Пісьмы з-пад шыбеніцы", напісаныя незадоўга перад пакараннем. Яго імя па праву стаіць у нашай гісторыі побач з імёнамі Васіля Вашчылы і Тадэвуша Касцюшкі.**

**Мэта гэтых нататкаў коратка і даходліва расказаць пра асноўныя падзеі, звязаныя з жыццём і дзейнасцю Кастуся Каліноўскага, і больш падрабязна пра тое, што адбывалася ў тыя далёкія гады ў нашым рэгіёне (цяпер Івацэвіцкі, Бярозаўскі, Баранавіцкі, Драгічынскі і Пружанскі раёны). І, вядома, аб тым, як сёння наш народ беражэ памяць пра знакамітага змагара за зямлю і волю свайго люду.**

## I. ШЛЯХ ДА ІСЦІНЫ

### 1.

Вёска Мастаўляны на пачатку 19-га стагоддзя знаходзілася ў Ваўкавыскім павеце Гродзенскай губерні. Гэта радзіма Кастуся Каліноўскага. Тут ён нарадзіўся ў мнагадзетнай сям'і беззямельнага шляхціца, уладальніка невялікай фабрыкі, або дакладней, майстэрні льняных вырабаў.

Сямён Стэфанавіч, бацька Кастуся, паходзіў з даволі старажытнага, але зусім захудалага дваранскага роду, які на пачатку 19-га стагоддзя зусім страціў не толькі славу, але і ўсе прывілеі. Адрозніваліся ад звычайных сялян толькі тым, што мелі асабістую свабоду. Таму яму не ўдалося атрымаць добрую адукацыю і, як вынік гэтага, не меў ніякай казённай пасады. Трэба было сваім розумам прабіваць дарогу ў жыццё.

Незадоўга да нараджэння Кастуся (а гэта было ў 1835 годзе) Сямён Каліноўскі заснаваў у Мастаўлянах, якія належалі памешчыку А. Радавіцкаму, фабрыку льняных і баваўняных вырабаў. На ёй было 12 станкоў і працавала 20 вольнанаёмных рабочых. Дзякуючы старанням, Сямён Стэфанавіч хутка авалодаў ткацкім майстэрствам.

Фабрычныя і камерцыйныя справы забіралі ў Сямёна Каліноўскага амаль увесь час. Надзейнага памочніка ў яго не было. Таму дамашняй гаспадаркай і выхаваннем дзяцей займалася ягоная жонка Вераніка Рыбінская. Яе шлюб з Сямёнам Каліноўскім быў шчаслівым, але, на жаль, недаўгавечным. Яна памерла на 38-м годзе жыцця пры нараджэнні дванаццатага дзіцяці. Тады Кастусю ішоў шосты год. Акрамя старэйшага Віктара і Канстанціна, астатнія дзеці памерлі ў раннім узросце.



**Дом, у якім нарадзіўся Кастусь Каліноўскі.**

Сямён Каліноўскі ажаніўся ў другі раз. Ад гэтага шлюбу з Ізабелай Лазарэвіч на свет паявілася яшчэ пяцёра дзяцей.

### 2.

Толькі на 56-м годзе свайго жыцця Сямён Стэфанавіч Каліноўскі ажыццявіў сваю даўнюю мару. У 1849 годзе напалам з жонкай Ізабелай Лазарэвіч ён купіў невялікі маёнтак Якушоўка, пры якім мелася 220 дзесяцін зямлі. Гэта ў сямі кіламетрах ад мястэчка Свіслач Ваўкавыскага павета. Сюды ж Каліноўскі перанёс з недалёка размешчаных Мастаўлян сваю невялікую ткацкую фабрыку.

І Мастаўляны, і Якушоўка размешчаны на ўскраіне Белавежскай пушчы. Менавіта тут, на ўлонні цудоўнай прыроды, сярод тутэйшых сялян прайшлі дзіцячыя гады Кастуся. На жаль, вельмі мала вядома пра гэты перыяд жыцця Каліноўскага. Даследчыкі сцвярджаюць, што ніякіх гувернёраў у бацькавым доме ніколі не было. Кастусь рос разам са сваімі братамі, а таксама з равеснікамі з сялянскіх дзяцей. Ён бачыў, як працавалі рабочыя на бацькавай фабрыцы, як гаравалі сяляне на сваіх надзелах і ў пана. Ён бачыў бяспраўнасць, патрэбы і запатрабаванні народа. Гэта, вядома, зрабіла вялікі ўплыў на фарміраванне светапогляду маладога Каліноўскага.

Жывучы ў вёсцы, Кастусь, без сумнення, слухаў і з малаком маці ўбіраў у сябе песні і быліны, легенды і паданні, прыказкі і прымаўкі. Менавіта ў іх жылі народныя думкі і пачуцці, надзеі і трывогі, боль, гнеў і любоў.

У чыстым полі
вецер буйны вее,
Там малойча
пшанічаньку сее,
Сее-сее ад краю да краю...

Так спявалася ў адной з песень. Але ў іх гучала і рашучасць сялянства самім дабівацца зямлі і волі:

Зноў у хаце закурыцца
Асінай-дрывамі.
Годзе, братцы,
трэба біцца
За зямлю з панамі.

### 3.

Але самы вялікі ўплыў на Кастуся аказаў у дзяцінстве старэйшы брат Віктар (1833—1862) — студэнт медыцынскага факультэта Маскоўскага універсітэта. Ён дапамог Кастусю разабрацца ў жыццёвых уражаннях, асэнсаваць убачанае ў дзяцінстве і знайсці сваё месца ў будучай барацьбе за светлую будучыню свайго народа.

Як ужо было сказана, ні хатніх настаўнікаў, ні гувернёраў бацька Кастуся для сваіх дзяцей не наймаў. Яго, Кастуся, рыхтаваў да паступлення ў Свіслацкую гімназію брат Віктар. Калі Кастусю споўнілася дзевяць гадоў, бацька адвёз яго ў Свіслач. Гэта ціхае і спакойнае мястэчка. Яно належала рэферэндарыю Вялікага княства Літоўскага Вінцэнцію Тышкевічу, чалавеку прагрэсіўных ідэйных перакананняў. Дарэчы, гімназія была адкрыта ў 1805 годзе і атрымала афіцыйную назву Гродзенскай губернскай гімназіі. Гэтая назва захавалася за ёй на працягу трох дзесяцігоддзяў.

У гімназіі быў выдатны падбор выкладчыкаў, добрая вучэбная база. Займацца тут Каліноўскаму было цікава.

Гады навучання Кастуся ў гімназіі супалі з так званай "Вясной народаў" — дэмакратычнымі рэвалюцыямі 1848 года. Яны літаральна скаланулі і прывялі ў рух усю Еўропу. Не мінулі яны і Беларусі. Учасціліся сялянскія выступленні. Пранікненне новых ідэй віталі лепшыя прадстаўнікі беларускага народа.

### 4.

Паэт Уладзіслаў Сыракомля вітаў усе прагрэсіўныя падзеі сваім вершам "Добрыя весці", які быў напісаны на роднай мове. За распаўсюджванне гэтага верша людзей арыштоўвалі і ссылалі ў Сібір. Вось як выказаў свае думкі Сыракомля:

Заходзіць сонца
пагоднага лета,
І веець вецер
з заходніх нябёс.
Здароў будзь, вецер!
З далёкага света
Добрыя ж весці да нас
ты прынёс!
Здаровы ж будзьце,
эй, добрыя весці!
Там на Заходзе
праліваюць кроў,
Б'юцца для славы,
свабоды і чэсці
І робяць вольных
людзей з мужыкоў!
Гудуць вясёла і песні,
і танцы
У добрым жніве
на шчаслівы год.
Годзе вам, годзе,
вы, цары-паганцы,
Таптаць з балотам
хрышчоны народ!



**Будынак Свіслацкай гімназіі.**

Гэтыя шчырыя, палымяныя радкі праз брата Віктара былі, без сумнення, знаёмы і Кастусю-гімназісту. На яго духоўнае развіццё самы вялікі ўплыў аказваў у першую чаргу Віктар, адароны ад прыроды цікаўнасцю, жывым розумам і выключнай працаздольнасцю. Ён любіў літаратуру, асаблівую цікавасць праяўляў да гісторыі. Трэба думаць, што іменна ад Віктара ўпершыню пачуў Кастусь аб тайных таварыствах 20-х гадоў у Свіслачы, аб свіслацкіх гімназістах — удзельніках паўстання 1830—1831 гадоў, аб рэвалюцыйных таварыствах 30—40-х гадоў, даведаўся пра імёны змагароў супраць самадзяржаўя.

Яшчэ адну акалічнасць, звязаную з вучобай Каліноўскага ў Свіслацкай гімназіі, важна падкрэсліць. Пасля паўстання 1831 года навучанне ў гімназіі вялося на рускай мове. Гэта дала магчымасць Кастусю авалодаць багаццем расійскай мовы, а разам з ёй пазнаёміцца з творамі А. С. Пушкіна, А. С. Грыбаедава, К. Ф. Рылеева...

Вядома, што, акрамя Кастуся Каліноўскага, у сценах Свіслацкай гімназіі вучыліся такія вядомыя пазней кіраўнікі і ўдзельнікі паўстання 1863 года, як Уладзіслаў Малахоўскі, Рамуальд Траўгут, Адольф Белакоз і іншыя.

### 5.

Пасля заканчэння Свіслацкай гімназіі ў Кастуся Каліноўскага пачаўся новы этап самастойнага жыцця. У канцы 1855 года ён паехаў у Маскву да старэйшага брата Віктара. Мэта паездкі — паступленне ў Маскоўскі універсітэт. Па словах даследчыка В. Ластоўскага, Каліноўскі стаў студэнтам універсітэта, **"скуль за народнічанскія перакананні і прапаганду скора яго выдалілі. Тады ён паехаў у Пецярбург і там дакончыў навукі"**. Праўда, пра вучобу Каліноўскага ў Маскоўскім універсітэце іншых дакументальных дадзеных не выяўлена.

На самай справе Кастусь у Маскве доўга не затрымаўся, і ў другой палове ліпеня 1856 года разам з братам Віктарам пераехаў у Пецярбург. А ўжо 1 жніўня Каліноўскі звяртаецца ў рэктарат Пецярбургскага універсітэта з просьбай дапусціць яго да прыёмных экзаменаў. 5 кастрычніка таго ж года ён быў прыняты ва універсітэт на першы курс юрыдычнага факультэта.



**А. Марачкін. Партрэт Кастуся Каліноўскага, студэнта Пецярбургскага універсітэта.**

Разам з прыняццем на вучобу Каліноўскі быў вызвалены **"от платы за слушание лекций на основании представленного им свидетельства о бедности"**. З гэтых падзей і пачалося для вясковага хлопца студэнцкае жыццё. Можна з упэўненасцю сказаць, што яно было цяжкім і складаным у многіх адносінах, а таксама насычаным змястоўнымі лекцыямі і рознай літаратурай, сустрэчамі з цікавымі людзьмі, удзелам у тайных сходках і арганізацыях.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**г. Івацэвічы.**

**(Працяг будзе).**

# МЫТАРСТВА ... ПОКОЙНИКА

## Как я искал морг в регионе

**Хочу рассказать историю, которая произошла со мной 23 июня 2001 года.**

Утром, в 8 часов, умер родной дядя моей жены Александр Степанович Клютко, который проживал в д. Яглевичи. Мы вместе с женой садимся в наш "Фольксваген-Пассат" и едем помочь жене покойного. Сами понимаете: в такой момент дорога каждая минута.

Дочь покойного живет и работает в Нижневартовске, в данный момент уехала к детям, которые учатся в институтах города Томска. Мы сообщили о случившемся её мужу. Он сказал, что найдет её, просил не хоронить тестя без неё.

Поэтому мы решили завезти тело покойного в холодильную камеру морга Ивацевичской районной больницы. Завезли, но оказалось, что холодильник не работает, а на улице +25°С. В холодильнике находился еще один покойник. Мы всё же оставили тело покойного в неработающей морозильной камере. Начали выяснять, возмущаться. Оказывается, камера уже давно не работает, но никому до этого нет дела. А ведь у нас имеется санэпидемстанция, которая предназначена не только для проверки магазинов, столовых, детсадов...

По приезду в Яглевичи, всё рассказали жене покойного. Мол, сохранить тело до приезда дочери не удастся. Она же сообщила, что позвонила дочь из Томска и попросила не хоронить отца без неё и что приедет через два дня.




**"Скорая" нужна, конечно, живым...**

Тогда мы позвонили в приемный покой Березовской райбольницы. Там отнеслись с пониманием к нашей беде, только попросили взять направление с приемного покоя Ивацевичской райбольницы. Мы загружаем тело покойного в мой автомобиль "Фольксваген", завернув в покрывало, и едем в Березу.

Приехали в больницу города Береза. Вместе с медсестрой приемного покоя идем смотреть холодильную камеру морга, но она, оказывается, тоже не работает, там тоже лежал труп мужчины, покрытый потом (а говорят покойники не потеют!). В камере — отвратительный запах.

Возвращаемся в приёмный покой, звоним судмедэксперту по Березовскому и Ивацевичскому району, выясняем, что в Белоозерске и Пружанах тоже холодильные камеры не работают. Эксперт предложил свои услуги по сохранению тела покойного — бальзамирование. Цену не сказал, мол, это не телефонный разговор, он через полчаса приедет и всё обговорит.

Мы с женой не стали ждать его, так как поняли, что в данной ситуации мы на крючке, с нас выжать можно всё, что угодно, а денег у нас в кармане — 10 тысяч. Дураку понятно, что за эти деньги мы ничего не сделаем. Решаем ехать в Кобрин.

По приезду в Кобрин остановились на автобусной остановке, чтобы спросить, как проехать к райбольнице. Подошла женщина, она что-то ела. Жена спрашивает, она что-то отвечает. Затем глянула в салон машины и, увидев труп, побелела, вскрикнула истошно и побежала прочь.

Больницу мы всё же нашли. В приемном покое нас выслушали с пониманием, дали ключ от морга, но когда узнали, что тело будет лежать больше суток, порекомендовали найти патологоанатома Кобринской райбольницы.

Пришлось ехать обратно через весь город. Нашли нужный адрес, нашли доктора. Договариваемся, едем обратно в больницу. Я уже готов заплатить любые деньги, чтобы поместить покойного в холодильную камеру.

Приезжаем в морг. Патологоанатом объясняет, что там сильно воняет, так как лежит разложившийся труп женщины, мол, сможем ли мы это пережить? И мы всё это увидели: кровь и грязь в тамбуре входа в холодильную камеру. Я понял, что санэпидемстанции Березовского и Кобринского районов тоже занимаются проверкой только магазинов, столовых, ресторанов, детских садов.

Тело покойного положили на коляску, закатили в холодильную камеру, закрыли и только после этого включили холодильник.

Хотелось бы через вашу газету поблагодарить врача-патологоанатома Кобринской райбольницы за то, что он сохранил тело, и к гробу покойного не страшно было подойти. Он был даже красив, как говорили потом яглевичские бабки.

**Павел ЗУБКОВСКИЙ.**
**д. Яглевичи Ивацевичского района.**

ДАРЭЧЫ

# Каму патрэбен морг?

Баранавіцкая міжраённая судова-медыцынская экспертыза абслугоўвае Баранавіцкі, Ганцавіцкі, Ляхавіцкі раёны і горад Баранавічы, а гэта прыкладна 300 тысяч чалавек.

Тут асабліва шмат работы пасля выхадных і святаў, а найбольш "кліентаў" пастаўляе горад. Але, каб атрымаць заключэнне судмедэкспертызы, неабходна мець пастанову пракуратуры, суда ці міліцыі.

Кіраўнік установы Пётр Чаранкевіч кажа, што для эксперта няважна, хто забіў ці нанёс траўму, галоўнае — устанавіць, калі гэта здарылася і чым зроблена. Экспертыза можа пацвердзіць версію следства ці вінаватага, альбо абвергнуць яе. А здараецца, што даецца і накірунак, у якім трэба шукаць злачынцу. Вось прывезлі парэзаны на часткі труп. І экспертыза ўстанавіла, што "папрацаваў" над ім чалавек фізічна слабы, але які ведае анатомію. Потым затрымалі інваліда, які ў свой час сапраўды вывучаў будову цела.

А ці можна зрабіць фальшывае заключэнне? Ці мала хто можа папрасіць за сына ці брата.

— Я працую тут з 1974 года, і калі б у нас займаліся падманамі, то я даўно не быў бы на гэтай пасадзе. Ды і ўвогуле, калі ў чалавека зламана бядро, як не зафіксаваць гэта? — расказвае П. Чаранкевіч. — Мы працуем, калі можна так сказаць, з фактам. Калі пішацца заключэнне, напрыклад, на факт забойства, то часта мы не ведаем, хто гэта зрабіў, злачынцу яшчэ трэба затрымаць.

Кожны дзень на медэкспертызу паступае 5—10 трупаў. Гінуць людзі, у асноўным ва ўзросце 30—50 гадоў, але ёсць старыя і дзеці.

Нябожчыкаў шмат, а вось морга ў горадзе няма, хаця толькі для судмедэкспертызы морг патрэбен плошчай не менш як 300 м$^2$ з адпаведнымі халадзільнымі камерамі. Невялікі морг ёсць пры чыгуначнай бальніцы, але яго плошча разлічана толькі на сваіх. Прыходзіцца выкручвацца, але для ўсіх нябожчыкаў месца няма.

— А тут тэлефануе багаты чалавек, ці пры пасадзе, і просіць ці нават патрабуе пакласці сваяка ў маразілку, — працягвае Пётр Мікалаевіч. — Вось паспрабуй растлумачыць яму, што экспертыза той маразілкі не мае. Атрымліваецца, што морг, найперш, патрэбен не нябожчыкам, а жывым. Галоўны дзяржсудмедэксперт Беларусі Юрый Гусакоў абяцаў дапамагчы з будаўніцтвам морга, але добра было б, каб тут свой уклад зрабіла і мясцовая ўлада.

Ды што морг, калі няма нават службы, якая б займалася транспарціроўкай трупаў. І смех, і грэх, калі нябожчыка саджаюць у таксі альбо кладуць-запіхваюць у аўтапрыцэп "Зубраня" і прывозяць на экспертызу. Наяўнасць спецмашыны зняла б з родных праблему транспарціроўкі памерлага.

Ёсць яшчэ адна праблема. Калі прывозяць труп пакрамсаны, то сшываць яго, прыводзіць у адпаведны стан судмедэкспертыза не абавязана. Зноў жа патрэбна служба, якая б наводзіла "марафет", каб нябожчыкі былі "як жывыя". Так прынята ва ўсім цывілізаваным свеце. Ва ўстанове працуюць 4 урачы і 15 малодшых супрацоўнікаў. Як бачым, работа ў іх цяжкая, але чалавек да ўсяго прывыкае, дакладней — не на ўсё вострa рэагуе, бо, як сказаў П. Чаранкевіч, да мёртвых прывыкнуць немагчыма, асабліва калі гінуць дзеці.

Працуюць у судмедэкспертызе спецыялісты высокай кваліфікацыі, якія павінны ўмець разабрацца і ў не тыповых сітуацыях.

Сёння амаль усе надбаўкі да зарплаты ў работнікаў экспертызы знялі. І хаця судмедэксперты, можна сказаць, працуюць у адной звязцы з той жа міліцыяй, але заробак і пенсіі ў іх не ідуць ні ў якое параўнанне.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**
**"Звязда".**

# "Мой любімы настаўнік"

**Хто такі настаўнік? На гэтае пытанне адзін адкажа, што гэта чалавек, які вучыць дзяцей розным навукам, а другі скажа, што гэта яшчэ і маці...**

Мая маці — заняты чалавек. Яна працуе ў школе настаўніцай. Заўсёды матуля прыходзіць з работы вельмі стомленая, і я стараюся не дакучаць ёй. Здаецца, сур'ёзная жанчына, нічога і ніколі не баіцца, адным словам, рашучы чалавек, але сэрца ў яе ласкавае, добрае, як тое яскравае сонейка. А калі матуля ўсміхаецца, то здаецца, усміхаецца ўвесь свет. Усміхаецца шэры дождж кожнай сваёй кропелькай, усміхаецца сонейка і шле маці з кожным залатым промнем прывітанні, усміхаецца вецер і, запаволіўшы свой палёт, аддаецца ўладзе летуценняў.

Як толькі я нарадзілася, мая маці радавалася майму крыку, таму што яна — маці. Я падрастала, і яна цешылася маім першым зубком, маім першым "мама", таму што яна — маці. Помню, прыйдзеш дахаты з разбітым локцем, матуля пакрычыць, а потым і пашкадуе. І так лёгка становіцца, чуеш, як прайшоў боль, і ляціш высока ў небе, ныраеш у пухкія аблокі. І маці скажа, што трэба быць ва ўсім асцярожнай.

У хуткім часе я пайшла ў школу, і ўсё было добра. Таму што маці заўсёды мне казала, што трэба добра вучыцца, бо такога чалавека паважаюць. Я стараюся рабіць усё, як кажа мая матуля. І калі ў мяне што-небудзь не атрымліваецца, я вельмі перажываю, бо не хачу, каб маці засмучалася, не хачу, каб з шэрых, як лясныя азёры, вачэй выкацілася дрыжачая слязінка, бо тады ўсё заціхае, хмурнее. Ах, родная мая, любімая, самая-самая... За кожную з тваіх слязінак я не пашкадую ўсіх зорак на небе, толькі б ты не засмучалася.

А як смачна матуля гатуе! Не верыце? А вось паспрабуйце. Са звычайнай бульбы такое зробіць, што нават і не здагадаешся, што гэта. У кожную суботу ў нашай хаце заўсёды пахне пірагамі. Не пералічыш, чаго толькі яна не прыдумвае. І я ахвотна вучуся ў яе. Можа і з мяне вырасце такая ўмелая кухарка, як маці.

Яшчэ многаму навучыць мяне матуля. І я буду старанна вучаніцай.

Я вельмі люблю матулю, люблю яе вочы, рукі, голас, люблю яе такой, якая яна ёсць. І не трэба мне ні славы, ні багацця, ні грошай, толькі б разам са мною была маці — самае дарагое, што ёсць у мяне. І ведаеце, я думаю, што званне Маці — самае ганаровае ў свеце. Яна мой настаўнік па жыццю... Бацькоў не выбіраюць, але каб мне выпала такая магчымасць, то я б выбрала сваю самую лепшую ва ўсім свеце матулю — Чаховіч Святлану Яўгенаўну.

**Наталля ЧАХОВІЧ,**
**вучаніца гімназіі г. Белаазерска.**

# Хочаш мядку — стаў вуллі ў садку

Яшчэ зусім нядаўна на сядзібе кожнага жыхара вёскі Дзераўная (Драгічынскі раён) стаялі вуллі. Вясной і летам тут прыемна гулі пчолы, прыносячы ў свае хаткі гаючыя дары прыроды.

Зараз на ўсю вёску засталося толькі два пчалярыаматары. Адзін з іх — Уладзімір Сямёнавіч Бандарчук. Раней працаваў загадчыкам мясцовай жывёлагадоўчай фермы. Але любоў да пчол, да гэтага карпатлівага занятку перамагла. Ужо сем гадоў, акрамя сваіх уласных пчол, Уладзімір Сямёнавіч дбае пра пчол калгасных. 50 вулляў на пасецы калгаса "Радзіма". Гэта нямала. Але, па словах самога пчаляра, ёсць намер набыць яшчэ 20 сем'яў у Брэсцкім пчолагадавальніку.

Дарэчы, сама пасека размешчана ў спецыяльным "пчаліным раі" — сярод ліп, іншых дрэў і кустоўяў, пасеваў грачыхі і меданосных траў. "Узяткі" для пчол гарантаваны і догляд самы дбайны — таксама.

**Антон ХВЕДАРЧУК.**
**г. Драгічын.**

# ☎ Як набыць падкову?

**Я жыву ў вёсцы. Маю ўласнага каня. І, як правіла, конь павінен быць падкаваны. А дзе знайсці падковы? Быў у Івацэвічах, і ў гаспадарчых магазінах мне адказалі, што такога тавару няма. У народзе кажуць, што падкова, прымацаваная над уваходам у хату, прыносіць шчасце. Можа, яно і так. Але, на маю думку, падкаваны конь у сялянскай гаспадарцы прыносіць не меншае шчасце. Вяскоўцы, як ніхто, ведаюць пра гэта. Таму праблема набыцця падкоў пакуль што застаецца. Можа, рэдакцыя мне што-небудзь падкажа?**

**Юрый ДАВІДЧЫК,**
**жыхар вёскі Аляксейкі Івацэвіцкага раёна.**

Каб адказаць на пытанне жыхара в. Аляксейкі, мы звярнуліся ва універсальны комплекс аптоварознічнага гандлю, пракату і паслуг № 2 г. Івацэвічы Брэсцкага аптовага гандлю, што размяшчаецца ў Івацэвічах па вуліцы Загарадняй. Яго работнікі нам сказалі, што падковы для коней раней у магазіне прадавалі. Зараз іх няма. Калі ж вяскоўцам спатрэбяцца падковы, трэба звярнуцца ў названы магазін і зрабіць заказ. Па магчымасці такія падковы пастараюцца завезці.

# Сердечно поздравляем





*Сердечно поздравляем с днем рождения дорогую доченьку, сестричку и мамочку Наталью Григорьевну СЕЛИФОНОВУ из д. Ходоки. Желаем счастья, здоровья, любви, добра, вечной юности и цветения, улыбок, солнца и тепла в твой светлый праздник — день рождения. Желаем быть всегда красивой, всегда любимой, молодой, в кругу семьи — всегда счастливой, в кругу друзей — всегда простой.*

*С любовью — папа, мама, сестра и дочери.*



*От всей души поздравляю с днем рождения дорогую доченьку и сестричку Светлану Васильевну ЧЕРНЫШ из г. Береза. Желаем здоровья и счастья на долгие годы и чтоб миновали любые невзгоды...*

*С любовью — мама, папа, Ирина.*

*Сердечно поздравляем с днем рождения Олега ГУТОРА из д. Ягелевичи Ивацевичского р-на. От всей души желаем крепкого здоровья на долгие годы, оптимизма, благополучия, удачи во всех делах и всего самого хорошего.*

*Пусть что хочется —*
*то и сбудется,*
*Что не ладится —*
*то забудется,*
*Пусть хорошее только*
*множится*
*И удачно всё в жизни*
*сложится.*

*С любовью и уважением — жена, дочери, тёща, тесть.*



*От всей души поздравляем с днем рождения дорогую доченьку и сестричку Любовь Валерьевну ПОПКО из д. Бусяж Ивацевичского р-на. Желаем крепкого здоровья, огромного счастья, благополучия, успехов и радости в жизни.*

*Мама, папа, сестра Светлана, брат Николай и их семьи.*

*От всей души поздравляем с днем рождения дорогого мужа и папу Сергея Анатольевича КОВАЛЬЧУКА из г. Ивацевичи. Желаем крепкого здоровья, успехов во всем, благополучия.*

*С любовью — жена, дети.*



*Сердечно поздравляем с днем рождения Николая Николаевича КОЗЛЯКА из г. Ивацевичи. Желаем всего самого наилучшего: здоровья, счастья, благополучия.*

*С уважением — родные.*



*Сердечно поздравляем с днем рождения Янину Адамовну ЛОСЬ из г. Ивацевичи. От всей души желаем крепкого здоровья, удачи, счастья, всегда прекрасного настроения и долгих лет жизни.*

*Коллеги РЦГиЭ г. Ивацевичи.*



*От всей души поздравляем с днем рождения Татьяну Николаевну КОЗЛЯК из г. Ивацевичи. Желаем крепкого здоровья, счастья, всегда прекрасного настроения, улыбок и всего самого наилучшего в жизни.*

*С любовью — родные.*



*Сердечно поздравляем с днем рождения Веру Васильевну МАТВИЕНЮ из г. Коссово. Желаем здоровья на долгие годы, чтоб миновали любые невзгоды, чтобы от счастья блестели глаза и только от смеха сбегала слеза.*

*Родные.*

## Барановичский филиал Белорусского коммерческого института управления

(Лицензия № 97 от 16 июня, регистрационный № 278)

**объявляет прием студентов на 2001/2002 учебный год**

| Факультет | Специальность (предметное собеседование) | Квалификация |
|---|---|---|
| 1.Управления | Экономика и управление на предприятии (Д, З) (Математика, русский или белорусский язык) | Экономист-менеджер |
| 2.Современные иностранные языки (СИЯ) | Современные иностранные языки (Д) (Иностранный язык — письменно, устно) | Переводчик-референт |
| 3.Правоведение | Хозяйственно-правовая (Д, З) (История Беларуси, русский или белорусский язык) | Юрист |
| 4. Психология | Социальная психология (Д, З) (История Беларуси, русский или белорусский язык) | Психолог, преподаватель психологии |

**Примечание:** Д — дневная форма обучения; З — заочная форма обучения.

***Приемная комиссия принимает документы с 15 апреля — 26 августа 2001 г.***

***Абитуриенты, помимо заявления, предоставляют в приемную комиссию:***

а) документ о среднем образовании (подлинник) или копию документа о высшем образовании и приложение к диплому (подлинник);
б) 6 фотографий (3х4);
в) медицинскую справку (форма 086У);
г) выписку из трудовой книжки (для заочной формы обучения).

Паспорт и военный билет абитуриент предъявляет лично.

***Без прохождения собеседования на основании поданного заявления зачисляются:***

— лица, награжденные по окончании средней школы золотой, серебряной медалью или имеющие средний балл аттестата выше 4,0 (без удовлетворительных оценок);

— выпускники средних специальных заведений, имеющие диплом с отличием или средний балл диплома выше 4,0 (без удовлетворительных оценок по предметам собеседования);

— лица, не прошедшие по конкурсу в другие высшие учебные заведения, при наличии положительных оценок по предметам вступительных собеседований в БКИУ.

**Собеседования для поступления на очную и заочную формы обучения проводятся в 3 потока:**

— первый поток 10 июля 2001 г.
— второй поток 2 августа 2001 г.
— третий поток 24 августа 2001 г.
— льготный 28 августа 2001 г.

**Наш адрес: г. Барановичи, ул. Промышленная, 3 (авт. 3, 6, 12, 16).**

**Телефоны приёмной комиссии 49-18-32, 46-04-19.**

## ПРОДАЮТСЯ

### РАЗНОЕ

☞ Коза с козлятами, можно по отдельности. Тел. в Ивацевичском р-не 52-5-08.

☞ Заточное устройство для ленточных пилорам. Тел. 8(245) 2-54-16 (в раб. время).

☞ Ж/б балясины для крыльца, балкона; тротуарный бордюр. Телефон в Ивацевичах 8 (245) 2-58-46.

☞ Лодка надувная, новая "Omega" (двухместная). Тел. 8(245) 2-34-19.

☞ Нутрии, пчелосемьи с ульями и без. Тел. 8 (245) 2-37-10.

☞ Продается бетонная облицовочная плитка для отделки фундаментов зданий, заборов, гаражей. Телефон в Ивацевичах 8 (245) 2-58-46.

☞ Электропрялка. Недорого. Тел. 8 (245) 2-52-15 (в раб. время).

☞ Велосипед горный, б/у, состояние хорошее. Тел. 8 (243) 4-05-18.

☞ Баян "Firotty", недорого. Тел. в Ивацевичском р-не 8 (245) 3-20-95.

☞ Фотоаппарат "Polaroid", б/у 1 месяц, дешево. Тел. в г. Ивацевичи 8 (245) 2-58-51.

☞ Забор: сетка-рябица, обрамлённая в уголок, размером 1,5 м х 3 м. Тел. в Ивацевичском р-не 8 (245) 3-29-35.

☞ Плиты перекрытия, кирпич силикатный белый, шифер, пиломатериалы. Тел. в г. Ивацевичи 2-31-18.

### АВТОМОБИЛИ, ЗАПЧАСТИ

☞ "Форд-Сиерра", 1985 г. в., 2, 3, д, состояние хорошее, цена — 1500 у. е., торг. Тел. в Ивацевичском р-не 8(245) 68-2-53.

☞ Прицеп тракторный 2ПТС-4 с документами. Тел. 8(243) 4-75-76.

☞ Стекло лобовое, новое к ВАЗ 2101-07. Тел. 8(243) 4-75-76.

☞ "М-21 403" (Москвич). Состояние хорошее, требуется ремонт кузова, недорого. Тел. 8(245) 2-69-83.

☞ "Фольксваген-Сантана", 1982 г. в., 1,6д, 5КПП, цвет — серебристый металлик. Тел. 8(243) 2-97-32.

☞ Мотоцикл "Минск", новый, двигатель "Восход-3М", преобразователь частоты 380х36 вольт, 200 ГЦ, 5,6 квт. Тел. 8(245) 2-37-10.

☞ "Мерседес 300Д", по запчастям. Тел. в г. Ивацевичи 8 (245) 2-32-11.

☞ Мотоцикл МТ-11 "Днепр", 1988 г. в., без коляски, после капитального ремонта. Тел. в г. Береза 8 (243) 4-14-60.

☞ "Форд-Сиерра", универсал, на запчасти. Тел. в г. Ивацевичи 8 (245) 2-43-72.

☞ Мопед "Скутер SM", 1996 г. в., КПП-автомат, цена 700 у. е. Тел. в г. Береза 8 (243) 4-50-28.

### НЕДВИЖИМОСТЬ

☞ Однокомнатная квартира в г. Береза по ул. Ленина. Общая площадь 36,1 $м^2$, третий этаж. Тел. в г. Ивацевичи 8 (245) 2-21-72 (после 18.00).

## КУПЛЮ

☞ Шины грузовые, тракторные, запчасти к МТЗ. Тел. в г. Пружаны 7-21-36, в Минске 259-84-76 (с 9.00 до 17.00, кроме выходных).

☞ Передвижной гараж в г. Ивацевичи. С предложениями обращаться по тел. 2-65-22 (в нерабоч. время).

## СНИМУ

☞ Срочно квартиру на длительный срок. Тел. 8 (245) 2-42-70 (в нерабочее время).

☞ Сниму однокомнатную квартиру в г. Ивацевичи. Тел. 8 (245) 2-12-29 (в рабочее время).

☞ Молодая семья из 3-х человек снимет однокомнатную квартиру в г. Ивацевичи. Тел. 2-61-57.

## МЕНЯЮ

☞ Трехкомнатную квартиру на двухкомнатную (с доплатой). Тел. в г. Ивацевичи 8 (245) 2-42-30 (звонить в рабочее время).

**ЗАБОРЫ**

Размер секции 1,5 х 2м

За наличный и безналичный расчет

бетонные, армированные, высокопрочные

г. Барановичи, тел. (0163) 45-55-55

8-029 640 63 91

***Стиральные машины-автоматы. Новые. Цены низкие. Гарантия, доставка, установка.***

**Телефон (8-23) 45-44-21.**

г. Барановичи, ул. Советская, д. 59-а, ТД "Нептун".

Свидетельство № 200302176

ТОВАР СЕРТИФИЦИРОВАН

**МИР СВЯЗИ**

Пакет услуг PRIVET

Карта предоплаты PRIVET

Сотовые телефоны стандарта GSM

Аксессуары к сотовым телефонам

Телефоны и факсимильные аппараты

VELCOM

САЛОН-МАГАЗИН «МИР СВЯЗИ»

ЗАО «ЛИНКБЕЛТЕЛЕКОМ»

официальный дилер компании Velcom

**Брест, ул.Советская, 116**

Тел./факс: 20-31-56;

GSM: 8-029-6500010

**Турфирма "СПУТНИК"**

Предлагает:

— большой выбор путёвок на Чёрное море. Стоимость от 80 у. е.
— поездки на рынок в Москву и Хмельницкий.
— экскурсионные туры по странам Европы.

**Тел. в г. Берёзе (8-243)-2-40-32.**

всегда у нас

**УАЗ ГАЗ запчасти**

г. Слоним, ул. Я. Купалы, д. 5
тел. (8-01562) 2-13-56;
г. Волковыск, ул. С. Панковой, 69
тел. (8-01512) 2-19-58, 2-78-23;
г. Пружаны
тел. (8-232) 2-07-51.

***ЗАПАСНЫЕ ЧАСТИ к автомобилям МАЗ, КамАЗ, ЗИЛ-5301 "Бычок". Аккумуляторы.***

**Адрес:** ул. Красноармейская, д. 73

**ООО "МИРОДИН"**

*со склада в г. Слониме.*

*Тел./факс 2-76-23 с 8.00 до 17.00.*

**ПРОДАЮТСЯ**

- газовые котлы АОГВ,
- колонки "Нева" 3208.

**Низкие цены, гарантия, доставка, консультации.**

Тел. г. Барановичи 823-41-73-71, г. Ивацевичи 2-29-58 (раб.), 2-57-47 (дом.).

Свидетельство №04975

**Магазин "УЮТ" предлагает:**

| | | |
|---|---|---|
| **жалюзи, роллеты** | **обои:** 100 видов, карнизы, лаки, краски, клеи, отделочные м-лы | упаковочные пакеты, посуда одноразовая — мелкий опт |

г. Береза, ул. Суворова, д. 3 (рядом с магазином "Техника"), тел. 4-44-23

ПОРОШКИ, ЧИСТЯЩИЕ И МОЮЩИЕ СРЕДСТВА

Торговый ряд в пер. Почтовом, г. Ивацевичи

